Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

3 - 9 ЛІПЕНЯ 1998 ГОДА
ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ
ЦАНА 3000 РУБЛЁЎ
№27 (167)

АДНА ЗЯМЛЯ

## 3 ліпеня назаўсёды застанецца Днём вызвалення. Днём памяці



ФОТАЭЦЮД АЛЯКСЕЯ ФЯЦІСАВА

ПРЭСА

## Маладзечна – лідэр

*Пра справы маладзечанскага раённага аддзялення "Белсаюздруку" гаворыць кіраўнік гэтай установы Вольга КЛІМОВІЧ.*

- У Маладзене і раёне працуюць пятнаццаць кіёскаў і адзін магазін «Белсаюздруку», у якіх акрамя беларускай прэсы можна набыць і выданні некаторых краін СНД. Ёсць ў продажы і іншыя тавары: цыгарэты, біжутэрыя, канцтавары, дзіцячыя цацкі, гаспадарчыя тавары. Хаця на маю думку, такія рэчы не павінны быць ў кіёсках, за выключэннем канцылярскіх тавараў.

На продаж прэсы, безумоўна, уплывае пара года. Ужо шмат год актыўнасць аматараў пачытаць узрастае ў I, III і IV кварталах. Таксама адчуваецца ўплыў надвор"я. Маладзечанскі «Белсаюздрук» працуе вельмі эфектыўна. Продаж газет і часопісаў складае 75% ад агульнага тавараабароту. У вобласці Маладзечна займае лідзіруючае становішча. Другое месца ў Жодзіна, трэцяе -- у Салігорска.

### Ганндлёвыя пункты «Белсаюздруку»

Кіёскі:
**№1 – чыгуначны вакзал, №2 – ля друкарні "Перамога"**, №3 – ля гарадскога стадыёна, **№4 – Старое Места, №5 – вул. Скарыны,** №6 – 6-ы мікрараён, №7 – ля музвучылішча, №8 – ля магазіна "Дзіцячы свет", №9 – Радашковічы, **№10 – ля харчовага рынку, №11 – аўтавакзал**, №12 – ля СШ №4, №13 – вул. Касманаўтаў, **№15 – ля кінатэатра "Радзіма"**, №16 – ля завода парашковай металургіі. Ёсць таксама магазін «Белсаюздруку» (будынак магазіна «1000 дробязей»). Пункты, выдзеленыя тлустым шрыфтам, працуюць без выхадных.



…НОВЫ КІЁСК ПОБАЧ З ДРУКАРНЯЙ «ПЕРАМОГА» КАШТАВАЎ «БЕЛСАЮЗДРУКУ» 195 МІЛЬЁНАЎ РУБЛЁЎ

*Падрыхтавала Юлія ВАНСЛАЎ,*
*Фота Алега ГУЛЕЦКАГА.*

АСТРАВЕЦ

## Паспрабуй стаць скаўтам

Каля дваццаці хлопчыкаў і дзяўчынак накіраваліся ў Докшыцы, каб адпачыць у скаўцкім лагеры.

Пажыць у палатках, прайсці сапраўдную школу пражывання іх запрасіў Саюз скаўтаў Беларусі. Глядзіш, пасля такога адпачынку многія папоўняць рады скаўтаў.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

ВІЛЕЙКА

## «Зеніту» чвэрць стагоддзя

Учора на галоўным вытворцы фотаапаратуры нашай краіны прайшлі святочныя мерапрыемствы з нагоды юбілею. Лепшым работнікам былі ўручаны прэміі. Абнавілася, пасля перапынку ў некалькі год, Дошка гонару прадпрыемства.

«Зеніт» перажывае не самыя лепшыя часы. Дакладней-- самыя цяжкія з часу заснавання завода. А рашэнне аб яго будаўніцтве было прынята 15 мая 1970 года Пастановай Саўміна СССР №329-115сс. А яшчэ раней гэтаму папярэднічаў «зварот грамадзян» у маскоўскія інстанцыі, дзе аргументавалася неабходнасць стварэння падобнай вытворчасці (экалагічна бясшкоднай), дзеля забеспячэння працоўнымі месцамі насельніцтва.

Урэшце, завод быў створаны і ў 1973 годзе быў здадзены АТК першы фотаапарат. З таго дня і вядзе сваю гісторыю завод «Зеніт».

*Аддзел інфармацыі.* *Падрабязна чытайце на 2-й стар.*

СМАРГОНЬ

## Спагнанні за выкарыстанне

Поўнасцю задаволеныя патрэбы грамадзян у зямельных участках для будаўніцтва жылля, вядзення падсобных гаспадарак, у дачных масівах. Вось толькі не ўсе гаспадарнікі выконваюць зацверджаныя райвыканкомам мерапрыемствы па вынасе аб'ектаў забруджвання з водаахоўных зон, прыбярэжных палос, што пагаршае выкарыстанне зямлі. Толькі летась на вінаватых накладзены 22 адміністрацыйныя спагнанні на суму 7670 тысяч рублёў.

*Павел МАКЛЮК.*

МЯДЗЕЛ

## Будслаў зноў збірае паломнікаў

Мека беларускіх каталікоў Будслаў 2 ліпеня зноў сабраў вернікаў з Беларусі і замежжа, каб пакланіцца святыні- абразу Маці божай Будслаўскай. Паводле касцельнай гісторыі, ён падараваны ў 1598 годзе папам рымскім Кліментам VIII мінскаму ваяводу Яну Пацу з нагоды яго пераходу з пратэстанцтва ў каталіцызм. Урэшце, у 1613 годзе абраз апынуўся ў Будславе. Культ святыні пачаў аднаўляцца з пачатку 90-х гадоў нашага стагоддзя.

*В. Г.*



ЭКАЛОГІЯ

## Паветра коштам 750 тысяч

*МАЛАДЗЕЧНА. На забруджанае паветра скардзіцца кожны гараджанін – вернуць насы ад чорных выхлапаў аўтобусаў, "КамАЗаў" ды іншых і марыць хутчэй выехаць "на прыроду". А потым сёй–той з іх садзіцца за руль і не заўважае, што і яго аўтамабіль можа быць адным з "дымаходаў". А гэта, між тым, парушэнне, якое караецца штрафам.*

*Працяг на 3-й ст.*




*Для праверкі ўтрымання СО (вокісу вугляроду) у выхлапных газах выкарыстоўваецца газааналізатар "Інфраліт 1100", перад гэтым паверaны і апячатаны. Яму даюць хвілін колькі прагрэцца, калібруюць. Дапушчаецца ўтрыманне СО не звыш за 1,5% (што не так жорстка, як у большасці краін Еўропы). За эксплуатацыю транспарту з перавышэннем нормаў штраф складае ад 0,5 да 3 мінімальных зарплат адпаведна з арт. 82 "Кодекса аб адміністрацыйных правапарушэннях".*

ФОТА АЛЕГА ГУЛЕЦКАГА

САПРАЎДНАЯ АМЕРЫКА

# Welcome to Iowa

*Працяг. Пачатак у №№ 8-26.*

## Can I help you?

На адзін з уік-эндаў выехалі ў сталіцу суседняга штата Небраска – Омаха, дзе размешчаны адзін з лепшых у ЗША заапаркаў. Нечаканасці пачаліся адразу пры ўваходзе. Паколькі шлагбаўмаў ці турнікетаў не было, то мы спакойна рушылі на тэрыторыю. Але білеты, аказваецца, і там трэба купляць. Таму дзядок з "прахадной" нас спыніў. Аднак не пачаў наўздагон крычаць нешта пагрозлівае, толькі высунуў услед нам галаву са сваёй будкі і спагадліва спытаўся:

– Can I help you (Я магу вам дапамагчы)?

Мы, праўда, здагадаліся, чым - білетамі.

Але фразу гэтую давялося чуць ледзь не на кожным кроку – у магазінах, рэстаранах, офісах кампаній, сем'ях. Вышкаленасць амерыканскіх служачых уражвае.

Што тычыцца заапарка, то яго трэба наведаць. Шкадаванне падчас візіту было адно: нашы дзеці падобнае яшчэ доўга не ўбачаць.



*Побач з пінгвінамі лёгка ўявіць сябе ў Антарктыдзе.*



*Тыгр вылез на нечаканае зімовае цяпло, нібы наш сакавіцкі кот.*

## Чырвоная Омаха

Уладальніца мясцовага магазіна "Red square" Лена – з Мінска. Прыехала сюды 18 год таму (у лютым 1980-га ледзь паспелі выехаць, як мяжу СССР закрылі). Яна гаворыць, што ў Аёве, Небраска вельмі шмат беларусаў – у асноўным, чамусьці, з Гомельшчыны і Віцебшчыны.



*Стаміўся ад наведвальнікаў.*

Антураж перад магазінам сапраўды падобны на вядомую маскоўскую плошчу. Крыху прадуктаў, але ў асноўным сувеніры. Тавар вязуць з Масквы, Пецярбурга. Добра ідуць "чаропкі" (Гжэль, кераміка), каштоўныя камяні. Прычым сістэма, па яе словах, і тут "наша" – падманваюць.

– Чаму Небраска? – перапытвае Лена.– У мужа тут сваякі, штат ціхі, спакойны. У Омаха добрыя школы, універсітэт. Праўда ню-ёркцы пра наш штат не ведаюць: Небраска? Гэта там, дзе каровы па вуліцах ходзяць?

– А як з мовай?

– Гэта пастаянная вучоба. Тут кожны штат мае свой акцэнт. Але праблемаў не было – калі трэба, то лёгка вывучыш і кітайскую.

Турысты заўсёды ідуць сюды; падабаецца і амерыканцам. Хаця нам значна цікавей было ў заапарку.

*Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ.*



*А яшчэ тут ёсць пячоры з дробнымі звяркамі і насякомымі; спецыяльныя месцы выдзелілі для малпаў... Не надта якасныя, на жаль, атрымаліся здымкі з падводнага грота. Гэта празрысты паўкупал, а вакол вада, у якой плаваюць скаты і акулы - працягні руку і каб не шкло, дакрануўся б.*

ФОТА АЎТАРА.

БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ

**МАЛАДЗЕЧНА.** Цэны на прадукты харчавання ў сераду на рынку:

| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (ТЫС. РУБ.) | |
|---|---|---|---|
| | | 24.06 | 1.07 |
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | 90 | **91,7** |
| Кілбаса с/вэндж. | 1 кг | 370 | **370** |
| Сасіскі свіныя | 1 кг | 96 | **96,2** |
| Селядзец салёны | 1 кг | адсутн. | **адсутн.** |
| Рыс | 1 кг | 32 | **32** |
| Цукар | 1 кг | 28,9 | **адсутн.** |
| Грэчка | 1 кг | 30 | **33** |
| Алей | 1 л | 65 | **68** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 26,4 | **27** |
| Маянэз | 250 г | 20 | **22** |
| Кава "Пеле" | 100 г | 73 | **75** |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | 25 | **26** |
| Соус там. "Мінскі" | 0,5 л | 25 | **26** |
| Лімоны | 1кг | 68,5 | **65** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | | |
| Смятана | 1 л | 30 | **30** |
| Масла | 1 кг | 80 | **80** |
| Тварог | 1 кг | 30 | **25** |
| Малако | 1 л | 8 | **9** |
| Бульба | вядро | 90 | **70** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 35 | **30** |

## Ягадкі-грыбочкі

***З пачаткам ліпеня на базары выразна вызначыўся ягадна-грыбны рад.***

Прапануем на гэтыя прадукты маладзечанскія цэны:

- лісічкі (слоік 0,5л) .............................. 20 тыс. руб.
- чарніцы (вядро 5л) .............................. 110 тыс. руб.
- парэчкі (вядро 5л) .............................. 90 тыс. руб.
- маліны (вядро 5л) .............................. 250 тыс. руб.
- суніцы (вядро 5л) .............................. 350 тыс. руб.
- парэчкі чорн. (5л) .............................. 150 тыс. руб.

*Алег ГУЛЕЦКІ.*

ДУМКА АЎТААМАТАРА

# Сціснутым газам па шкодных выхлапах

Перавод рухавікоў на сціснуты газ мае два плюсы: значная эканомія грошай (5000 за літр газу супраць 8–11000 за бензін) і прадукты згарання газу амаль не ўтрымліваюць шкодных рэчываў у адрозненне ад бензіну.

Здавалася б, парк аўтамабіляў з рухавікамі на газе мусіць павялічвацца, але ў Вілейцы гэтага не адбываецца. Па-першае, адзіная запраўка сціснутым газам у рэгіёне знаходзіцца ў Маладзечне. Па-другое, расклад яе работы (з 9–00 да 17–00 па буднях) не спрыяе аўтааматарам, якія працуюць на прадпрыемствах са звычайным рабочым днём і тыднем.

Можа б, кіраўніцтва маладзечанскай запраўкі сціснутым газам здолела павялічыць час работы да 19 гадзін? Аўтааматары рэгіёна гэта б віталі.

*Ігар КІЦІКАЎ.*

коў, экалогія, сацыяльныя прычыны.

***- Чарнобыль?***

- Тут хутчэй трэба гаварыць пра экалагічнае становішча ў цэлым, хаця і ён таксама. Рэзка знізіўся імунітэт усяго насельніцтва. Трывожаць дзіцячыя "шчытавідкі", яшчэ 5-6 год таму ніводнае дзіця не мела язву страўніка ці 12-перснай кішкі (на сёння – 24 чалавекі), з'явіліся злаякасныя ўтварэнні.

***- А што з харчаваннем?***

- Нашы дзеці практычна не маюць чыстых прадуктаў – пачынаючы з груднога малака. Проста на вачах бяднеюць сем'і – мала хто мае магчымасць купляць прадукты якасныя і ў дастатковай колькасці. І з-за мяжы да нас ідзе звычайна не лепшае.

***– Карціна ўражвальна-цьмяная. Як жа застацца здаровым ці падлячыцца?***

- Дзіцё павінна быць патрэбным усім – уласнай сям'і, школе, урачам. Чалавек мусіць мець нармальны лад жыцця, правільна харчавацца і адпачываць. Гэта асновы, але ім следуюць нямногія. У нашай паліклініцы створана аддзяленне медыцынскай рэабілітацыі. Ёсць выдатныя спецыялісты: праводзім масаж, іголкарэфлексатэрапію, працуе алерголаг, нават лячэбную фізкультуру вядзе ўрач. Ёсць у нас малочная кухня (кефір неабходны малым, як паветра), аднак, на жаль, пастаянна бываюць нейкія няўвязкі - накшталт адсутнасці бутэлечак. У дзіцячай бальніцы ёсць палаты аздараўлення, дзе падлечваюцца тыя дзеці, якія сваім сем'ям не надта патрэбныя. Акрамя лячэння, яны тут нармальна харчуюцца.

***- Давялося чуць пра аздараўленчыя групы ў адным з дзіцячых садкоў.***

- На базе садка № 21 і на чалавечым энтузіязме. Дапамагае яго загадчыца **Людміла Лучыновіч**. Працуюць дзве групы рэабілітацыі: мы забяспечваем медыцыну, садок – харчаванне і выхавальнікаў, якіх падабрала загадчыца. Праўда, скаргі ёсць – цяжка туды трапіць, хаця і так курс разлічаны максімум на 2 месяцы. Садок гэты плануецца перадаць на баланс аддзела адукацыі, што дасць магчымасць мець 6 груп, павялічыць тэрміны прабывання дзяцей да 6 месяцаў. Мы першыя ўзнялі пытанне пра закінутых дзяцей – тут яны змогуць акрыяць і маральна, і фізічна.

***- Сем'і ў іх не зацікаўленыя. Ці даводзіцца нешта гаварыць пра планаванне сям'і?***

- Мала хто клапоціцца пра такое. Хаця гэта тэма для асобнай гутаркі, з думкамі спецыялістаў раддома.

***- Падзяліцеся, калі ласка, сваімі агульнымі "паліклінічнымі" ўражаннямі.***

- Ведаеце, вельмі люблю прайсціся па калідорах паліклінікі, паглядзець дзяцей. Заўважу, што сёння прыкметна болей стала сем'яў, дзе маці ідзе побач з бацькам, а той з гонарам нясе ці вядзе за руку малое. Новае пакаленне будзе глядзець за сваімі дзецьмі. І снежны ком п'янства пайшоў на спад, калі меркаваць па дзецях. Пік яго прайшоў, і, спадзяюся, світае.

*Юлія ВАНСЛАЎ,*

*Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ.*

ФОТА СЯРГЕЯ КАПЫЛОВА.

ЭКАЛОГІЯ

# Паветра коштам 750 тысяч

*Пачатак на 1-й ст.*

Штогод у чэрвені мясцовая інспекцыя прыродных рэсурсаў і абароны навакольнага асяроддзя сумесна з ДАІ праводзіць рэйды "Чыстае паветра". 23 чэрвеня брыгада з трох спецыялістаў, якую ўзначальвае **Міхаіл Шукін**, разам з нарадам старшыны дзяржаўтаінспекцыі **Міхаіла Кудзіна** наладзілі пост на выездзе з Маладзечна ў напрамку Мінска.

Для праверкі ўтрымання СО (вокісу вугляроду) у выхлапных газах выкарыстоўваецца газааналізатар "Інфраліт 1100", перад гэтым паверэны і апячатаны. Яму даюць хвілін колькі прагрэцца, калібруюць. Дапускаецца ўтрыманне СО не звыш за 1,5% (што не так жорстка, як у большасці краін Еўропы). За эксплуатацыю транспарту з перавышэннем нормаў штраф складае ад 0,5 да 3 мінімальных зарплат, адпаведна з арт. 82 "Кодекса аб адміністрацыйных правапарушэннях".

Такім чынам, 15.40 і аўтаінспектар пачынае тармазіць транспарт, што трапляецца пад руку. 16.20 – заканчваем, праверылі 100 аўтамабіляў. Вынікі для зручнасці зведзеныя ў табліцу. Яна даволі паказальная і па наяўнасці ў насельніцтва тых ці іншых сродкаў перамяшчэння (53 іншамаркі, 47 вытворчасці СНД). Ніякіх відавочных заканамернасцяў не выявілася, хаця некалькі заўвагі можна зрабіць.

Па-першае, чакаў, што больш будуць "смярдзець" нашыя ветэраны "жыгулі-масквічы", а спецыяліст Сяргей заўважыў:

- Толькі не "капейкі".



Нібы ў пацверджанне пад'ехалі тры запар "жыгулёнкі" першай мадэлі і ва ўсіх СО – у норме. А вось "шасцёркі"... ім бы якога аўтамабільнага "Ронда", якое спрыяе чыстаму дыханню і разуменню.

Па-другое, іншамаркі. Два старадаўнія "Форды-Гранады", што адрозніваліся толькі колерам, але чырвоны (СО – 0,1%) спакойна паехаў далей, а зялёны (СО – 6%) плаціць штраф. "Узрост" іншамаркі на колькасць СО таксама напрамую не ўплывае. Толькі ад'ехаў з мірам старэнькі "Гольф", як за ім прыбор паказаў перавышэнне СО ў амаль новага "Пасата" ў тры разы! Уразілі чысцінёй выхлапаў "Аўдзі", незалежна ад мадыфікацыі - 80-я, 100-я ці наварочаная "Аўдзі-Куатра".

З сотні вадзіцеляў сустрэліся толькі дзве дамы. Каця на "Жыгулях" сёмай мадэлі (СО – 1,1%) спакойна рушыла па сваіх справах. Таццяну з "Фольксвагена" (СО – 3.8%) аштрафавалі. І ёй (як і усім, хто "не ведаў") параілі адрэгуляваць карбюратар. Гэта першае, што вадзіцель мусіць зрабіць, калі не ўпэўнены ў колькасці СО свайго аўто, напоўненасці кашальку і не жадае задымляць навакольнае асяроддзе і без таго атручанае.

Нарад міліцыі быў не толькі добрым памочнікам. Ён абараняў спецыялістаў ад занадта ўражаных, якія ніяк не жадалі верыць сваім вачам.

- Я толькі з СТА! – доўга даказваў адзін.

- Гэта новы "Мерседэс", я за яго вялікія грошы аддаў! – здзіўляўся другі, не жадаючы расставацца са 125 тысячамі "драўляных".

Прынамсі, адна заканамернасць назіралася: чым даражэй машына, тым менш жадае плаціць яе ўладальнік. А вадзіцелям з "чыстым дыханнем" мы ветліва жадалі добрай дарогі.

*Алег ГУЛЕЦКІ.*

**Утрыманне СО**

| | норма | вышэй нормы | усяго а/м |
|---|---|---|---|
| **ІНШАМАРКІ** | | | |
| Ford | 9 | 4 | 13 |
| Volkswagen | 8 | 4 | 12 |
| Opel | 6 | 2 | 7 |
| Mazda | 2 | 0 | 2 |
| BMW | 4 | 0 | 4 |
| AUDI | 7 | 0 | 7 |
| Mercedes | 3 | 1 | 4 |
| Scoda | 1 | 0 | 1 |
| Renault Espace | 1 | 0 | 1 |
| **УСЯГО** | **41** | **11** | **52** |
| **АЎТА КРАІН СНД** | | | |
| Жыгулі 1 мад. | 4 | 1 | 5 |
| Жыгулі 3 м. | 0 | 2 | 2 |
| Жыгулі 5 м. | 1 | 5 | 6 |
| Жыгулі 6 м. | 4 | 8 | 12 |
| Жыгулі 7 і 9 | 3 | 0 | 3 |
| І Ж | 3 | 0 | 3 |
| Масквіч | 6 | 5 | 11 |
| Ніва, УАЗ | 2 | 3 | 5 |
| "Газель" | 1 | 0 | 1 |
| **УСЯГО** | **24** | **24** | **48** |
| **УСІХ А/М** | **65** | **35** | **100** |

